ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы

*Свабода, роўнасць, братэрства!*




ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

**● Заснавана ў 1991 годзе ● №6 (62). ● Субота, 7 жніўня 1999 г. ● У розніцу кошт 10000 руб. ●**

## Навіны, падзеі, факты

### Стымулы што трэба

Да вёскі сёння прыкавана ўвага ўсёй краіны. Галоўная праблема, якая хвалюе кожнага з нас: ці будзем з хлебам? На дзяржаўныя хлебапрыёмныя пункты збожжа пакуль пастаўляецца не так, як трэба. А трэба, каб да 1 верасня ўсе гаспадаркі выканалі дзяржзаказ. Для гэтага дзяржава прадугледзела добрыя стымулы: сёння пшаніца з сярэднім класам клейкавіны каштуе 150 долараў за тону. Гэта вышэй за сусветны кошт. Па курсу долара на чорным рынку выходзіць 67500 беларускіх рублёў за 1 кг. Па курсу нацбанка 40200 рублёў. За харчовае жыта дзяржава дае 93 долары (па курсу на чорным рынку — 42000 за 1 кг, па курсу нацбанка — 25000 руб.). Тона ячменю піваварнага каштуе 130 долараў (1 кг — 58500 і 35000 рублёў), ячменю харчовага — 120 долараў (1 кг — 54 і 32 тыс. руб.), аўса — 130 долараў 1 тона.

Так што той, хто сёлета прадасць дзяржаве многа хлеба — азалаціцца.

### Нібы божая кара

Хоцімскі раён у "застойныя" гады быў адным з лепшых на Магілёўшчыне па развіццю сельскай гаспадаркі.

За гады ж "перабудовы" кіраўнікі-прыхватызатары ўсіх рангаў, ад гаспадарак да райвыканкама, давялі эканоміку раёна, як кажуць, да ручкі. А тут яшчэ, нібы божая кара, навалілася на самы ўсходні куток Беларусі, Хоцімшчыну, страшэнная засуха. У траўні прайшоў толькі адзін добры дождж, у чэрвені — ніводнага, у ліпені да пачатку жніва — таксама. У гэтыя ж дні, калі ўборка пайшла шырокім фронтам — зачасцілі дажджы. І цяпер новаму кіраўніку, старшыні райвыканкама Генадзю Сцефаненку разам з часткова абноўленым "дырэктарскім корпусам", хоць плач: як выканаць дзяржзаказ на продаж хлеба? У некаторых гаспадарках добра, калі хопіць зерня, каб засыпаць у засекі хоць насенны фонд. На фураж пойдуць толькі адыходы.

Уся надзея на больш моцныя гаспадаркі раёна, якія, магчыма, з салідарнасці, возьмуць на сябе цяжар слабых.

**(Наш. кар.)**

### На высокі ўраджай спадзёвы няма

Чым бліжэй дажынкі, тым відавочней, што высокім ураджай сёлета не будзе. Ён будзе ніжэйшым за леташні.

Пінскі і Столінскі раёны ўжо неўзадаўгі завершаць уборку, а па ўсёй Брэсцкай вобласці зжата ўжо больш паловы збожжа. Сярэдняя ж ураджайнасць не перавышае 22 ц/га. А убіралі найперш лепшыя ўчасткі.

Нават найлепшы па леташнім ураджаі калгас імя Куйбышава Жабінкаўскага раёну намалаціў толькі па 32,7 ц/га ў сярэднім.

У цэлым жа ўраджай яравых на 3—4 цэнтнеры ніжэй леташняга. Ды і трэба ж не забываць, што гэта "бункерныя" цэнтнеры, "амбарных" жа акажацца менш.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

### Выгарэла ўсё!

Так, з жалаем у голасе, паведаміў дырэктар Клімавіцкага саўгаса-тэхнікума Яўген Анатольевіч Барысевіч.

З вясны на палетках вучэбнай гаспадаркі гэтай установы радавала вока рунь яравых пасеваў. Спадзяваліся на добры ўраджай. А летняя спёка перакрэсліла ўсе спадзяванні і тут зараз гаруюць, што ўраджаю хопіць толькі што на насенне.

**(Наш кар.)**

### А ў нас нядрэнна!

Пяць гаспадарак Касцюковіцкага раёна сёння спраўляюць дажынкі. Гэта калгасы "Дуброва", "Прагрэс", "Новае жыццё", імя Карла Маркса і "Радзіма". Лепшыя намалоты — у калгасе "Дуброва". Тут сабрана збожжа ў сярэднім па 20 ц/га. А ячменю намалочана нават па 35 ц/га.

**Віктар БОНДАРАЎ.**

### На жніве — беларускія камбайны

Новыя збожжаўборачныя камбайны з маркай "Гомсельмаша" ўключыліся ў работу на Магілёўшчыне. Па чатыры гэтыя новыя складаныя машыны накіраваны ў міжгаспадарчыя механізаваныя атрады Магілёўскай і Шклоўскай райаграпрамтэхнік.

Уся тэхніка набыта за сродкі абласнога бюджэту. Каб не распыляць яе па калгасах і саўгасах, аблвыканкам вырашыў сканцэнтраваць камбайны ў міжгаспадарчых атрадах. Сёлета такія атрады працуюць ужо ў 16 раёнах вобласці. У іх распараджэнні 66 камбайнаў.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ.**

### Пенсіі зноў узраслі

У жніўні зноў зроблены пераразлік пенсій. Мінімальная пенсія складае 3 млн. 855 тыс. рублёў, а сярэдняя — 9 млн. 2 тыс. Максімальная пенсія працуючым пенсіянерам вызначана ў памеры 10 млн. 783 тыс., непрацуючым — 14 млн. 854 тыс. Самую ж вялікую максімальную пенсію атрымаюць у жніўні шахцёры — 18 млн. 926 тыс. руб.

## *Віншуем*

***ГАРЭЛАВУ Веру з днём нараджэння, жадаем шчасця і ўсяго самага найлепшага.***

**Лена, 10 год, в. Муравец, Клімавіцкага раёна.**





**На вуліцы ў Крычаве.** **Фота В. Бысава**

● ЭКАНАМІЧНЫ КАМЕНТАР

### Упершыню ў гісторыі Беларусі калгасы перадаюцца ў арэнду фермерам

У Беларусі дзве з паловай тысячы калгасаў і дзяржгасаў. Але па звестках з міністэрства сельскай гаспадаркі фінансавую самастойнасць маюць толькі 68, каля 0,3 працэнта. І ў такім становішчы ўлады мусяць нешта рабіць. Гэтай вясной напярэдадні веснавой сяўбы кіраўніцтва Віцебскай вобласці павінна было вырашаць цяжкую задачу: які такі фокус зрабіць, каб цэлы шэраг калгасаў хаця б кінуў насенне ў зямлю. Ну хаця б пазначыў неяк веснавыя работы. Мы дажыліся там да таго, што і выехаць у поле нават не было на чым. Характэрны прыклад — калгас "21-ы партз'езд" Віцебскага раёну: з чатырнаццаці трактараў ні адзін не змог прайсці тэхагляд і ніякай гарантыі, што дапыхкае да поля, не было. Дарэчы, і ў мінулы год калгас сеяў не сам. Не было каму і не было на чым. І раён прымусіў рабіць гэта людзей сельгастэхнікі. А зарплату тут не атрымлівалі мусіць месяцаў шэсць. І таму хадзіць на працу калгаснікі лічылі неабавязковым. Някормленая жывёла на фермах ужо нават не ўставала. І тады кіраўніцтва раёна і вобласці прыдумала: аддаць калгас у арэнду прыватніку, тутэйшаму фермеру Уладзіміру Рашчынскаму. А схема атрымалася вельмі зручнай: яно цяпер нібыта ўжо й не наша, ніхто з начальства ні за што не адказвае. А фермер, узяў, то й хай разбіраецца, як хоча. А Уладзімір Рашчынскі, які да гэтага паспяхова працаваў на сваіх сямідзесяці гектарах, за справу ўзяўся адразу. І пасеяў сёлета ў тэрмін, і тэхніка ў яго пайшла, і людзі заварушыліся. І мясцовыя чыноўнікі ўбачылі, што ёсць нейкае выйсце са становішча. Вось цяпер, на апошнім пасяджэнні аблвыканкама яго старшыня Уладзімір Андрэйчанка паставіў пытанне рубам: трэба знайсці яшчэ 58 фермераў, якія б узялі ў арэнду яшчэ 58 калгасаў, дзе жыццё стала ўжо зусім немагчымым. Але пакуль што пошукі жадаючых набыць сабе дадатковыя турботы ідуць марудна. Па-першае, беларускія ўласнікі за гады існавання сістэмы добра зразумелі: у нас з дзяржавай, дзе заканадаўчая база вельмі хісткая, у такія гульні гуляць небяспечна. Бо існуе пакуль толькі два асноўныя правілы: калі справы пойдуць добра, у цябе могуць усё адабраць, а самога адправіць за краты, як тое адбылося з вядомым на Беларусі двойчы героем Васілём Старавойтавым, і другое правіла —калі справы пойдуць дрэнна, цябе могуць пасадзіць усёроўна — за раскраданне калгаснага дабра. Менавіта таму народ арэндаваць калгасы ні ў Віцебскай вобласці, ні ў якой іншай не рвецца, хаця на Беларусі дзве з паловай тысячы калгасаў і якраз столькі ж фермераў — па аднаму "на брата".

**Анатоль ГУЛЯЕЎ.**

### Прыгожае жыццё — кароткае. Застрэліўся (ці быў забіты?) ў сваім рабочым кабінеце намеснік дырэктара Магілёўскага АК Банка "Поиск" Эдуард Шведаў

Па гэтаму факту Магілёўскай абласной пракуратурай вядзецца следства.

У перадсмяротным пісьме Э.Шведаў напісаў, што ў рабоце былі дапушчаны парушэнні фінансавай дысцыпліны.

Раней праваахоўнымі органамі была ўзбуджана крымінальная справа і вядзецца следства па фактах нядбайнасці ў выдачы крэдытаў і іншых фінансавых парушэннях у гэтым банку.

Эдуард Шведаў калісьці працаваў у партыйных органах, быў першым сакратаром Магілёўскага гаркама КПБ. У гады перабудовы стаў кіраўніком АКБ "Поиск". Апошнім часам займаў пасаду намесніка дырэктара гэтага банка. Прыгожа жыў чалавек. Кончыў непрыгожа.

**(Наш. кар.)**

### Старшыню БНФ не выбралі

У мінулыя дні адпачынку у Мінску адбыўся шосты з'езд БНФ. Першая сесія з'езду скончылася "нічыёй".

Ніводзін з 7 кандыдатаў, вылучаных на пасаду старшыні БНФ, не набраў неабходнай па Статуту колькасці галасоў. Вырашана, што у верасні адбудзецца другая сесія шостага з'езду Фронту.

***Рэпартаж Юрыя Дракахруста са з'езду чытайце на 2-й старонцы.***

● ПАЛІТЫКА

***А. 'яксандр ЛУКАШЭНКА:***

# "Беларусь ніколі не будзе каменем на шыі Расіі"

Аб перспектывах стварэння саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, а таксама аб перашкодах, што ўзнікаюць на гэтым шляху, ішла размова ў інтэрв'ю, якое 30 ліпеня даў журналістам газеты "Российская Федерация" прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка. У ходзе дыялогу (а ён працягваўся больш за гадзіну) кіраўнік дзяржавы адказаў на пытанні, якія хвалююць чытачоў і супрацоўнікаў гэтага выдання, як і ўсіх грамадзян Расіі.

Аб сваёй прыхільнасці да ідэі агульнай інфрмацыйнай прасторы гаварыў у інтэрв'ю і Аляксандр Лукашэнка. "Галоўнае, каб у Расіі ведалі праўду аб Беларусі", —лічыць ён. Кіраўнік дзяржавы пажадаў штотыднёвіку "Российская Федерация" стаць "першай ластаўкай" на адзіным інфармацыйным полі Саюза, застаючыся пры гэтым аб'ектыўным і прыстойным выданнем.

*Закрануўшы тэму прэзідэнцкіх выбараў, якія, згодна з Канстытуцыяй, адбудуцца ў Беларусі ў 2001 годзе,* Аляксандр Лукашэнка зноў пацвердзіў, што гатоў забяспечыць на іх свабоднае і дэмакратычнае волевыяўленне грамадзян. "Калі да таго часу мы прыйдзем да саюзнай дзяржавы, няхай прыязджаюць кандыдаты ў прэзідэнты і з Расіі. Я гатоў на аднолькавых правах канкурыраваць з любым палітыкам", — сказаў ён.

Між тым, форма і структура будучага аб'яднання Беларусі і Расіі канчаткова не зацверджаны да гэтага часу. Мяккі расійскі варыянт Саюзнага дагавора, па сутнасці, не мяняе сённяшняга становішча спраў, лічыць прэзідэнт. Але і радыкальны праект уваходжання Беларусі ў састаў Расіі шасцю абласцямі, агучаны расійскімі СМІ, на яго думку, не прыймальны для нашай краіны. "Я ніколі не дапушчу, каб Беларусь страціла свой суверэнітэт і незалажнасць, — заявіў Аляксандр Лукашэнка. — Мы гатовы вырашаць любыя пытанні, якія ўзнікаюць, толькі на раўнапраўнай аснове".

Да найбольш актуальных праблем, якія трэба вырашыць да стварэння саюзнай дзяржавы, прэзідэнт адносіць пытанне аб агульнай валюце Саюза і аб механазме эміссіі ў адзінай дзяржаве. Кіраўнік дзяржавы катэгарычна абвергнуў думку, якая бытуе ў Расіі, аб тым, што ў выпадку аб'яднання Беларусь істотна аслабіць эканоміку свайго ўсходняга суседа. "Мы не будзем каменем на шыі Расіі", — сказаў ён.

У час інтэрв'ю расійскія журналісты не маглі абысці ўвагай выступленне прэзідэнта Беларусі на пасяджэнні Парламенцкага сходу Беларусі і Расіі, якое атрымала шырокі грамадскі рэзананс. Адказваючы на пытанне аб прычынах, якія вымусілі яго зрабіць рэзкія заявы ў адрас Расіі, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што ідэя Саюза для яго — гэта святое, а крытыка прызначалася "расійскім элітам", якія тармозяць працэс стварэння саюзнай дзяржавы, разыгрываючы інтэграцыйную карту ва ўласных інтарэсах. "Пакуль усе апытанні грамадскай думкі сведчаць аб тым, што і расіяне, і беларусы падтрымліваюць Саюз, нам нельга ўпусціць час", — сказаў прэзідэнт.

**БЕЛТА.**

# НІХТО НЕ ПЕРАМОГ

## (РЭПАРТАЖ СА З'ЕЗДА БНФ)

У нядзелю, першага жніўня, з раніцы дэлегаты з'езду абмяркоўвалі вельмі важнае працэдурнае пытанне: як абіраць кіраўніцтва Фронту. Зянон Пазняк і ягоныя прыхільнікі настойвалі на тым, каб спачатку абраць старшыню, які б потым прапанаваў з'езду склад Сойму і спіс намеснікаў кіраўніка. Апаненты дзеючага старшыні прапаноўвалі, каб лідэр руху і Сойм абіраліся адначасова. Пасля некалькіх галасаванняў, якія суправаджаліся гарачымі спрэчкамі, было вырашана спачатку абіраць старшыню. Інакш кажучы, прайшла прапанова Пазняка і ягоных прыхільнікаў. Сярод дэлегатаў з'езду былі распаўсюджаны спісы сябраў Сойму, якіх мелі намер прапаноўваць з'езду ў выпадку свайго выбрання Зянон Пазняк і кіраўнік аргакамітэту з'езду Вінцук Вячорка. Пасля пачалося вылучэнне кандыдатаў. Было названа сем прозвішчаў: Пазняка, Вячоркі, Баршчэўскага, Хадыкі, Івашкевіча, Сіўчыка і Шыдлоўскага. Было аб'яўлена, што справаздачны даклад Пазняка з'яўляецца адначасна і ягоным словам кандыдата. Астатнія кандыдаты атрымалі магчымасць выступіць.

Як высветлілася, такое шматлюднае вылучэнне было палітычнай камбінацыяй. Пяцёра выступоўцаў знялі свае кандыдатуры на карысць Вінцука Вячоркі і выкарысталі прадстаўлены ім час для агітацыі за свайго кандыдата. Спадар Вячорка ў сваім выступе сказаў, што дыскусія, якая разгарэлася ва Фронце, сведчыць аб з'яўленні ў руху парасткаў дэмакратызму. Ён усклаў віну за магчымы раскол Фронту на Зянона Пазняка, паведаміўшы, што напярэдадні з'езду дзеючы старшыня Фронту заявіў сваім апанентам: усё вырашана, хто не згодны, павінен сысьці. Спадар Вячорка заклікаў да пераменаў у Руху, выказаўся супраць таго, каб прапаноўваць людзям сцэнары, ўзятыя з XIX стагоддзя. "Мы павінны перамагчы на рэальных выбарах, а не ў нейкай віртуальнай рэальнасці", — заявіў кандыдат у старшыні Фронту.

Некаторыя з іншых кандыдатаў, зняўшых свае кандыдатуры на карысць Вячоркі, звярталі ўвагу на тое, што ў спісе сябраў Сойму, які прапаноўвае Пазняк, няма прозвішчаў ніводнага з яго апанентаў. У той час як у Соймавым спісе Вячоркі ёсць і Пазняк, і шэраг прыхільнікаў дзеючага старшыні. Калі засталося толькі два кандыдата, было вырашана заслухаць па два выступы за Пазняка і за Вячорку. Прафесар Мікалай Крукоўскі ў сваёй прамове адзначыў, што толькі Зянон Пазняк валодае Харызмай, якой няма ў ягоных канкурэнтаў. Мастак Алесь Пушкін выказаўся за перамены ва Фронце, якія на ягоны погляд, увасабляе Вінцук Вячорка. Ён дадаў, што найлепшым варыянтам быў бы падзел галасоў. Як ні дзіўна, здзейсніўся менавіта гэты, амаль неверагодны варыянт, які ўзгадаў спадар Пушкін.

Пасля ўсіх прамоваў і выступаў пачалося патаемнае галасаванне за старшыню. У 4 гадзіны на трыбуну з'езду выйшаў старшыня падліковай камісіі Барыс Хамайда і паведаміў вынікі галасавання. У ім ўзялі ўдзел 313 дэлегатаў. За Вінцука Вячорку выказаліся 152 чалавекі, супраць — 160 дэлегатаў. За кандыдатуру Зянона Пазняка аддалі свае галасы 156 дэлегатаў. Супраць — роўна столькі ж, 156 чалавек.

Па Статуту Фронту старшынёй лічыцца той, за каго выказалася большасць дэлегатаў з'езду, узяўшых удзел у галасаванні. Большасць не выказалася ні за воднага кандыдата. Па прапанове выконваючага абавязкі старшыні Фронту Лявона Баршчэўскага дэлегаты прынялі рашэнне ў верасні правесці другую сесію з'езду.

**Юрый ДРАКАХРУСТ.**

# Ці павінна Беларуская апазіцыя пасля 21 ліпеня памяняць тактыку і стратэгію паводзінаў?

Некаторыя аналітыкі лічаць, што *жорсткім процістаяннем* з уладай яе сёння не зменіш. Таму трэба сёння, што называецца, ісці ў абыход. Каб зламаць гэтую сістэму, мала атакаваць і крытыкаваць уладу звонку. Трэба імкнуцца падарваць яе знутры. У якой форме павінны адбывацца перамовы паміж уладай і апазіцыяй? Гэтыя пытанні абмяркоўваюць намеснік старшыні аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандр Дабравольскі і палітолаг Аляксей Кароль.

**А.Дабравольскі.**

Сапраўды пасля 20 ліпеня апазіцыя павінна задумацца над тым, якая павінна быць яе стратэгія і тактыка ў барацьбе за дэмакратыю. Калі нават лічыць, што да 20-га ліпеня не было іншага выйсця і трэба было рабіць менавіта так, як рабілася, то пасля 20-га ўжо нейкі іншы час. І сапраўды гэты час патрабуе пэўных зменаў. Я толькі не думаю, што ўсё так проста, што ўсе апазіцыйныя сілы памяняюць сваю стратэгію і будуць лічыць, што не трэба змагацца напрамую з рэжымам, а трэба падрываць яго знутры. Мне здаецца, што такога вось простага рашэння не можа быць. Хаця і гэта не простае рашэнне, і не відавочна, ці прынясе яно карысць.

Я асабіста лічу, што не бывае неэфектыўнай стратэгія апазіцыі.

**А. Кароль.**

Змена тактыкі і стратэгіі пасля 20-га ліпеня немагчыма асэнсаваць не ўглядаючыся ў папярэдні перыяд. Што гэта была за стратэгія і тактыка да таго? Гэта пяцігадовы перыяд — і стратэгія і тактыка былі прадыктаваны станам таго рэжыму, які ўсталяваўся пяць год таму назад. Таму апазіцыя па-сутнасці праводзіла тую стратэгію, якая вызначалася раней у больш-менш публічны перыяд магчымасцей для дзеянняў. І падпіткі новага пакалення, новых маладых палітыкаў па сутнасці апазіцыя не атрымала.

Аднак адбылося і тое, што варта адзначыць як крышталізацыю дэмакратычнай апазіцыі. Што дала тая стратэгія і тактыка? Можна крытыкаваць і трэба крытыкаваць, адзначаць, што не зроблена таго, што можна было зрабіць і, галоўнае, прайгранае — перыяд рэферэндума 96 года. Вось з гэтага перыяду трэба было тактыку ўжо дакладна вызначыць і вырашыць пытанне аб арганізацыйным аб'яднанні дэмакратычных сіл. Гэта разумелі, але гэтага не было зроблена.

Мы не бачым, каб беларускія ўлады зараз гатовы былі дапусціць дэмакратыю ва ўладу. Тайнае пранікненне таксама немагчыма.

Што датычыцца пазіцыі Захаду, то яна прынцыпова не змянілася. Яны заўсёды выступалі за правядзенне дыялогу на трохбаковай аснове. Іншая справа, што пасля 20-га ліпеня зыходзячы з тых умоў, якія існуюць у Беларусі, у тым ліку слабасць апазіцыі, недакладнасці яе тактыкі і не зусім тых вынікаў, на якія яна спадзявалася, яны ставяць пытанне аб дыялогу. І гэта правільна, таму што дыялог — гэта магчымасць для апазіцыі падчас перамоў дасягнуць і ўнутранага аб'яднання паміж сабой, каардынацыі сваіх намаганняў і мэтаў. Дыялог з уладай патрэбен і дзеля ціску на гэтую ўладу, таму што ўсё ж такі дата 20 ліпеня мае не кароткатэрміновае значэнне, а працягласць па часе. Яна нікуды не знікне. І тое, што рэжым падвісае ў стане неканстытуцыйнасці, нелігітымнасці, гэты ўплыў будзе пастаянна ўзрастаць.

**А.Дабравольскі**

Зараз, наколькі я разумею, пазіцыя Захаду афіцыйна не змянілася. Больш таго, некаторыя дзяржавы зрабілі ў той ці іншай ступені цвёрдыя заявы аб тым, што не лічаць Лукашэнку дэмакратычна абраным прэзідэнтам.

Парламенцкая ж асамблея АБСЕ вырашыла, што менавіта Вярхоўны Савет прадстаўляе парламент Беларусі, а не нацыянальны сход.

Наколькі мне стала вядома, АБСЕ прапаноўвае, каб перамовы зараз вялі палітычныя партыі, а не дэлегацыі Вярхоўнага Савета. Я ў гэтым бачу вялікую небяспеку. Баюся, што на перамовах хтосьці з лідэраў партыі, якія прадстаўляюць сваю партыю, не аб'яднаную ні ў якім органе, заявіць іншую пазіцыю і Лукашэнка скажа:

— Ну, бачыце, яны паміж сабою не могуць дамовіцца. Пра што ж з імі гаварыць?

Таму, на маю думку, трэба каб перамовы вялі ад імя Вярхоўнага Савета, які будзе прадстаўляць апазіцыю, каб партыі даверылі Вярхоўнаму Савету прызначыць дэлегацыю.

**А.Кароль.**

Пасля 20-га ліпеня мы бачым пэўную слабасць, прычым маральную слабасць улады. 21-га і 27-га ліпеня *было пераадолена табу* на правядзенне дэманстрацый на тых месцах, *на якіх ніколі не дазвалялася* праводзіць. Гэта Плошча незалежнасці, *шэсце па вуліцах* і гэтак далей. Цяпер нам трэба патрабаваць *вызвалення палітычных вязняў.* Найперш Чыгіра. Калі гэта не зроблена, *нават цяжка весці перамовы.* Але падчас перамоў гэта павінна быць адно з патрабаванняў.

**Запісаў Віталь ЦЫГАНКОЎ.**

# ДЗЕЯЧЫ БНФ — ПРА ВЫНІКІ ГАЛАСАВАННЯ

Такіх вынікаў галасавання, калі меркаванні дэлегатаў з'езду падзяліліся дакладна пароўну, апроч мастака Алеся Пушкіна, не чакаў, бадай, ніхто.

**Вось што заявіў з гэтай нагоды адзін з кандыдатаў у старшыні Беларускага Народнага Фронту Вінцук Вячорка:**

— Я ацэньваю вынікі першай сесіі з'езду станоўча. Я ад самага пачатку падрыхтоўкі шостага з'езду заявіў, што бачу сваім абавязкам не дапусціць расколу ў Беларускім Народным Фронце. Так, сапраўды, мы розныя людзі, мы, магчыма, належым да розных палітычных пакаленняў і па - рознаму бачым методыкі палітычнай і грамадскай працы, але ж гэта не падстава для таго, каб адна палова заганяла ці вычышчала са складу БНФ і яго кіраўнічых органаў другую палову. Тое, што ёсць разнадумства, гэта рэч звычайная і важна толькі разнадумства не даводзіць да расколу.

На пытанне, ці лічыць спадар Вячорка, што Пазняк на з'ездзе атрымаў паразу, ён адказаў дыпламатычна.

— Я думаю, што для яго гэта нагода будзе нагодай сур'ёзна задумацца пра паспяховасць тых прапановаў, як агульнапалітычных, так і ўнутрыфронтаўскіх, з якімі ён выходзіў апошнім часам на беларускае грамадства і на фронтаўскі актыў.

**Намеснік старшыні Юрый Хадыка і сакратар управы Вячаслаў Сіўчык назвалі вынікі галасавання на з'ездзе паразай Зянона Пазняка.**

— Лідэр не мае права на такія лічбы, — заявіў Вячаслаў Сіўчык.

**Намеснік старшыні БНФ Сяргей Папкоў лічыць, што Пазняк паразы не атрымаў:**

— Няма паразы. Мы проста павіслі ў паветры на пару месяцаў. Ну, будем разбірацца. Жыццё не спыняецца. Я лічу, што трагедыі няма.

**Выконваючы абавязкі старшыні Лявон Баршчэўскі,** які будзе выконваць гэтыя функцыі да другой сесіі з'езду, лічыць, што з вяртаннем Пазняка падзелу ў Фронце ўдасца пазбегнуць:

— Я думаю, што спадар Пазняк сам павінен выцягнуць урокі з гэтага, ён павінен сам прапанаваць кіраўніка Фронту на Беларусі з захаваннем яго найвысачайшага статусу, ягонай падтрымкі там, за мяжой. Калі ён вярнецца напрацягу трох месяцаў, мы склікаем чарговы з'езд і ён вырашыць, хто надалей будзе кіраваць Фронтам. Але ён павінен не баяцца, што ён там будзе, а тут тым часам нехта ўжо стане іншым нацыянальным лідэрам. Ні ў спадара Вячоркі, ні ў іншых няма такога памкнення замяніць яго як палітычнага лідэра. Але ёсць памкненне арганізаваць працу арганізацыі, якая ў значнай ступені затармазілася і была здэзарганізавана ў апошнія гады. І таму, перадаючы яму абсалютную падтрымку як палітычнаму лідэру, я буду настойваць на той пазіцыі, што кіраванне Фронтам і старшыня Фронту павінен знаходзіцца ў Беларусі, —пракаментаваў вынікі галасавання на з'ездзе БНФ Лявон Баршчэўскі.

**А вось якую ацэнку вынікам з'езду дае Зянон Пазняк:**

— Я думаю, што гэта дрэнная сітуацыя, таму што фактычна Фронт будзе выключаны ад актыўнай дзейнасці. Цяпер вельмі важна, каб Фронт выступіў разам, канструктыўна, з палітычнымі ініцыятывамі, бо на верасень плануецца чарговы прыступ інтэграцыі. А атрымаецца, што Фронт можа быць заняты самім сабой. І калі да гэтага дойдзе, то будзе самазнішчэнне.

Цяпер самае галоўнае арганізаваць супольную работу. Можа аказацца, што вераснёўскі з'езд, ці кастрычніцкі, будзе ў зусім іншых грамадска-палітычных варунках. І тады не трэба будзе шукаць вінаватых. Вінаватымі знойдуць нас.

Трэба сабрацца і вырашыць, бо трэба супольна рабіць. І пытанне з грамадскім парламентам, і пытанне з Вярхоўным Саветам, і пытанне аб стварэнні альтэрнатыўных структур. Гэта ўсё трэба рабіць цяпер. Дакладней — яшчэ ўчора. Але прыступаць трэба зараз жа.

Пакуль я старшыня Фронту, я буду гэтым займацца, а не з'ездам. Я павінен думаць пра нацыянальнае адраджэнне і пра будучыню Беларусі.

Вынікі галасавання на з'ездзе для мяне не былі нечаканасцю. Гэта быў адзін з варыянтаў, які я прадугледжваў.

# *Кавуны і бульба — у адной цане*

На галоўным рынку сталіцы —Камароўцы у гэтыя дні кошт паўднёвых бахчавых і маладой беларускай бульбы зраўняўся — 80 тысяч рублёў за кілаграм.

За апошнія тыдні кавун "скінуў" цану у тры разы і, відавочна, надалей будзе таннець. А вось ці скіне цану наш "другі хлеб"? Гэта пытанне хвалюе сёння, напэўна, многіх.

На Камароўцы гуркі апошнім часам можна набыць па 40—50 тыс. за кілаграм, памідоры — за 170—180 (*зрэдку і за 120*) тысяч рублёў, *капусту за* 70—90 тысяч, а вось цыбуля доўга трымаецца ў межах 180—200 тыс. за кілаграм.

Як бачна чытачу, базарныя цэны у раённых гарадах Беларускага Усходу крыху *вышэйшыя*. А трэба б наадварот...

# Больш прагматызму

Тым, хто негатыўна ставіцца да прэзідэнта Беларусі, найбольшае, што можна зрабіць, гэта дэманстраваць пагардлівае стаўленне да Аляксандра Лукашэнкі (што і робіць частка польскіх сродкаў масавай інфармацыі). Гэта абражае не толькі Лукашэнку, але і яго выбаршчыкаў, ці большыню жыхароў Беларусі. Гэта спрыяе культывацыі антыпольскіх і антызаходніх стэрэатыпаў і настрояў і піхае Беларусь у абдымкі аднаго "праўдзівага" брата, Расіі.

Польскія сродкі масавай інфармацыі заклікаюць:

— З прэзідэнтам, названым узурпатарам, прыстойным людзям трэба парваць кантакты, а падтрымліваць беларускую апазіцыю, якая цяпер больш і больш эмігруе, асабліва ўцекача-"героя", старшыню распушчанага Вярхоўнага Савета 13 склікання, камуніста Сямёна Шарэцкага. Вядома, Лукашэнка сілай працягнуў свае паўнамоцтвы. Аднак Лукашэнка "ўзурпатар", падтрыманы грамадскасцю, а апазіцыя, якая бароніць старую канстытуцыю з'яўляецца выразнай меньшынёй.

Таму ў выпадку з Лукашэнкам дэмакратычны свет бездапаможны. Параўнанне Лукашэнкі з Мілошавічам абсурднае, да таго ж ізаляцыяй Беларусі найбольш карыстаецца Расія. А дакладней — антызаходнія і антыдэмакратычныя постсавецкія колы. Асабліва для Польшчы гэтая дылема важная. Беларусь і важны транзітны шлях на Захад, бар'ер, які аддзяляе ад Расіі. Да таго ж Беларусь — новая Радзіма тысяч палякаў. Таму палітыка Польшчы ў дачыненні да Беларусі павінна базавацца на падставе пытання бяспекі дзяржавы і абароны правоў палякаў, якія ў Беларусі жывуць. Палітыку Лукашэнкі рэкамендуецца ацэньваць як недэмакратычныя паводзіны, але з пункту гледжання вынікаў, якія такая палітыка нясе для Польшчы. Калі Лукашэнка аддаляе Беларусь ад Захаду, Польшча павінна стаць апошняй краінай, якая гэта ўспрыняла.

Аднак цяжка дэмакратызаваць Беларусь супраць волі бальшыні народа. Дзеянні Лукашэнкі нельга ацэньваць праз прызму беларусіх так званых дэмакратаў, некаторыя з якіх па просту абломкі посткамуністычнай наменклатуры, якая канфліктавала і канфліктуе з наменклатурай з атачэння Лукашэнкі. Як сур'ёзна ацэньваць апазіцыю, якая сама не можа з'ядначца і атрымаць падтрымку грамадства. Акцыі пратэсту, арганізаваныя гэтай апазіцыяй —паразы, якія кампраметуюць. Асабліва ганебнымі з'яўляюцца выбары прэзідэнта 16 - га траўня.

Прычынай слабасці пратэсту не ёсць рэпрэсіі з боку Лукашэнкі. У Беларусі, у адрозненне ад трактаванай як дэмакратычнай Расіі ніхто не страляе ў парламент, не згінуў там ніводзін чалавек. Затрыманне некалькіх лідэраў апазіцыі і ўдзельнікаў акцыяў могуць уразіць толькі маладое пакаленне, а не тых, хто памятае савецкія часы, НКВД і КДБ. А рэжым Лукашэнкі больш лагодны ў параўнанні з Польскім у 80-я гады. Ідэальным было б суседства з дэмакратычнай дзяржавай, але гэта не азначае, што кожнае недэмакратычнае аўтаматычна становіцца ворагам Польшчы. У параўнанні з некаторымі празаходнімі ісламскімі дзяржавамі Беларусь ёсць аазіс дэмакратыі і правоў чалавека. Польшчы мусіць перш за ўсё памятаць пра сваю бяспеку, польскую дыяспару на Гродзеншчыне, а беларускім дэмакратам дапамагаць у такой ступені, у якой гэта адпавядае яе стратэгічным інтарэсам. Гэта не праблема Польшчы, што беларускія апазіцыянеры не маюць падтрымкі ў народзе. Клапаціцца Польшча павінна пра польскі бізнес у Беларусі, развіццё ў Беларусі польскай культуры, для чаго трэба прыцягваць польскую меншасць, а не амбіцыі яе лідэраў.

**Антоній Падольскі, сакратар праграмы Польскага радыё "Палонія" для слухачоў у замежжы.**

# КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Вялікі князь Літоўскі Гедзімін (1316—1341 г.) працягваў палітыку аб'яднання беларускіх земляў, умацавання нашага гаспадарства. У часы яго валадарання ў склад княства ўвайшлі Менская, Віцебская, Турава-Пінская землі.

Вялікае Княства прэтэндавала на лідэрства ва Ўсходняй Еўропе, на ролю збіральніка ўсходнеславянскіх земляў.

Альгерд, сын Гедзіміна, ажыццявіў тры паходы на Маскоўшчыну, даходзіў да самой Масквы. Пад пратэктарам Вітаўта знаходзіліся Ноўгарад Вялікі, Пскоў і Разань.

У час валадарання Альгерда да Вялікага Княства Літоўскага былі далучаны Мсціслаўская, Чарнігаўская, Кіеўская, Падольская, Ноўгарад-Северская і Бранская землі.

Беларускія воі пад Альгердавым кіраўніцтвам тройчы разбівалі маскоўскае войска — у 1368, 1370 і 1372 гадах.

Падчас аднаго з паходаў, узяўшы з Маскоўскага Князя Дзімітрыя Іванавіча (пазней названага Данскім) вялікі выкуп — як сведчыць летапіс, "дары многія, незлічона золата, серабра, жэмчугу, сабалёў", сказаў векапомныя словы: "Хоць я з табой і памірыўся, але хачу яшчэ тую славу сабе учыніць што вялікі Князь Альгерд дзіду сваю пад Масквою прыкланіў". І, сеўшы на каня, пад'ехаў да гарадской сцяны і прыставіў да яе дзіду, сімвалізуючы тым поўную перамогу.

У бітве каля ракі Сінія Воды ў 1362 годзе беларускае войска пад кіраўніцтвам Альгерда разбіла орды падольскіх, крымскіх і дунайскіх татараў і вызваліла з-пад іх улады Украінскія землі.

# А вдруг совесть проснется?

В 1990 году группа верующих решила восстановить полуразрушенный храм в д. Мужичок Тростинского сельсовета. Я сфотографировал храм и послал в Москву с просьбой посодействовать в принятии решения о его передаче верующим. В результате немалых мытарств 22 июня 1990 года я заключил договор с райисполкомом о передаче Мучковско-Николаевского храма верующим.

К середине 1992 года здание мы восстановили на средства, собранные с прихожан и полученные от духовенства. Но на отделочные работы денег не хватило и я обратился в Хотимский райиполком за помощью. РИК таковую вроде бы и оказал, но пошел в обходную. Деньги перечислил не на расчетный счет церкви, а на счета Тростинского сельсовета и ПМК (строительная организация) в сумме 120 миллионов рублей. Сельсовет и ПМК производили работы по своему усмотрению, без нашего участия и без ведома епархиального управления. Меня, как председателя приходского совета, отстранили от дел вообще, хотя в 1994 году епархия восстанавливает меня в должности на второй срок.

Я обратился в Хотимский райсовет за помощью. И на этот раз "помощь" оказали. Но деньги отдали совхозу "Тростино". Директор совхоза Попелыш договорился с пред. райисполкома Кожемяко отстранить меня от церкви. Так и сделали. А ту работу по восстановлению здания храма, которую проделала группа верующих, Попелыш приписал себе. Хотел, видимо, получить орден святого Даниила.

Дальше — больше. Попелыш вкупе с зам. пред. райисполкома Курзенковым организовывают в деревне заговор, подговаривая народ против меня, чтобы, коль я добровольно не ухожу, отстранить меня от церкви "с помощью народа". И вот режут замок в храме и занимаются там, чем хотят.

В 1996 году я попросил архиепископа навестить наш храм и дать компетентные указания на дальнейшую работу. Он приехал, одобрил нашу работу, а в 1997 году по указанию чиновников из храма утащили клирос-хоры для певцов.

Пришлось обращаться с жалобой во многие высокие инстанции, вплоть до президента, о краже клирос-хоров. А результаты — нуль. Полтора года я добивался истины. Оказывается, украденные материалы передали Хотимскому краеведческому музею. Я понимаю, музей вещь нужная, его становлению нужно всячески помогать, но не таким же разбойным образом!

Мне обещали вернуть материалы (вернее дать взамен равноценные) и восстановить хоры для певчих. Но я сомневаюсь в этом.

Правоохранительные органы — прокуратура, УВД — предлагают подавать на чиновников в суд. Но толку-то? У сильного всегда бессильный виноват, как писал дедушка Крылов. И, заранее зная, что в Хотимском районе правды не добьешься, я хочу "пожурить" чиновников хотя бы через демократическую газету. Может совесть у них проснется, хоть чуточку образумит.

**Микутин А.Н.,**
**член религиозного общества.**

***Постскриптум.*** *Наш храм, он числился когда-то Мучковско-Николаевским, Климовичского уезда, может функционировать, но беда в том, что нет священника. Епархия дает для обслуживания церкви отца Инокентия из Климович, но ему до нас добираться 40 км. Невыгодно ни ему, ни для прихода, причем нерегулярное общение прихожан со священником не весьма желательно.*

И вот сегодня наш храм бездействует.

## ● КУТОК ГАСПАДЫНІ

### Напиток с листьями брусники

(2 яблока, 2 ст. ложки брусничного листа, 2 ст. ложки сахара, 5 стаканов воды).

Кожицу и семенные коробки яблок залить кипящей водой, добавить промытые рубленые листья брусники, кипятить 8—10 минут. Горячий отвар процедить, добавить в него кусочки яблок, сахар.

### Напиток из мяты

(20 г. сушеной мяты, 1 л. воды, 50 г. сахара, 25 г. сока клюквы или 37 г. сока красной смородины).

Мяту заварить кипятком, через 5 минут процедить через сито, смешать с сахаром и соком ягод, охладить.

### Три "кита" с душистой мелочью

Смешать по 30 г. мелко натертых моркови и сырого картофеля с 30 г. мелкорубленой свежей капусты, добавить столовую ложку растительного масла и 20 г мелко нарезенного укропа, и половину чайной ложечки молотого тмина или кориандра. Приятного аппетита!

### Сделайте сами для себя
### Пиво домашнее

(300 г. моркови, 600 г. сахарной свеклы, 7 литров воды, 5 г можжевеловых ягод, 200 г соли, 1,5 горсти шишек (лепестков) хмеля, 1,5 ложки пивных дрожжей).

Морковь и свеклу стереть на свекольной терке, положить в 10-литровую кастрюлю, залить 5 литрами воды и поставить на средний огонь. В другую кастрюлю влить 2 литра воды, бросить туда можжевеловые ягоды, соль, хмель и тщательно размешать. Затем перелить эту смесь в большую кастрюлю, где варятся морковь со свеклой и кипятить в течение получаса. После этого остудить раствор до 16 градусов, прибавить дрожжи и оставить бродить. Образующуюся сверху пену снимать трижды. После этого пиво можно считать готовым. Его можно разлить по бутылкам, закупорить и поставить в холодильник или в погреб.

## ● ЛІТАРАТУРНЫ КУТОК

**А.КАПЫТОЎ**

# НЕ ГАЎКАЙ! (апавяданне)

Да Дзмітрыя Шапавалава, загадчыка аддзела аблвыканкама, прыехаў з вёскі бацька Мікіта Іванавіч.

І вось каторую ўжо гадзіну яны сядзяць за сталом перад экранам тэлевізара, капаюць пакрысе з бутэлькі, закусваюць, гутараць.

Твар у Дзмітрыя друзлы, шматколерны, як вясёлка, сур'ёзнай тупасці на ім не менш як на 10 чыноўнікаў. Наогул ён здаецца старэй за бацькі, сухенькага, чысцюткага, з тварыкам, чымсці нагадваючым пыску лісіцы.

— Дык, кажаш, добра адзначылі? —усьміхаецца самазадаволена бацька.

— Хай бы паспрабавалі інакш. Калі не мяне, то каго ж яшчэ? Можа, гэтага дурня Шапіру? — рагоча і нахіліўшыся хістае галавой, нібы адганяе мух.

— Правільна, сынок, так трымайся, я дрэннаму не вучу. Я скумэкаў адразу...

— Прычым тут тое, сам не сляпы. Я яшчэ спачатку крыху паверыў у нейкую перабудову. А потым, калі ўсё захісталася і абкамаўцы пацягнулі з баз цягнікамі халадзільнікі, сцірушкі, колерныя тэлекі з японскім кінаскопам і безліч электронікі, і ўсё гэта ўдоўг, пра залатыя цацкі ўжо не кажу, іх бралі кілаграмамі.

— Во, во-во, — прыўзняўся бацька, як кот, які ўбачыў мыш.

— То я адразу скумэкаў, што гэта за штука, і вушы навастрыў не горш аўчаркі.

— Во, во-во, і я. Я змікіціў, —сказаў Мікіта, — не можа таго быць, каб гэтая партыя ды нешта ўпусціла з рук. І рашыў: трымайся за пута і будзеш тута. І вось, як бачыш, не забываюць.

— Бо свой. Хай дзеля колькасці, але ж... Яна ім, гэта значыць нам, зараз ого як патрэбна. Столькі разбеглася. — А як жа! Як раённы сход — еду. На які чорт мне ўсё гэта? Але еду. Бо трэба. Не мне, я ўжо сваё аджыў, дык табе. У іх усё на ўліку, як раней.

Ды яшчэ як! — усьміхнуўся лагодна і хітра сын. — Мне даўно перадалі пра цябе, ўсё-ўсё: і актыўны, і жвавы, і нястомны...

— Дзе ж тут стомішся? — пакруціў носам Мікіта, як цуцык, пачуўшы мяса, — ідзеш ля рэчкі і ўсё дачы, дачы, дачы. Двухпавярховыя, трох, чатырох і ўсё ў сасонніку. Адна за адной спрытнейшыя. А як прыйдзеш на сход, то ўсе гэтыя адданікі партыі, якія кулачылі да перакулачвалі, як адзін і ёсць уладары тых палацаў. А ў цябе ў кішэні — кукіш, а за яго хрэн купіш.

— Ну, не кажы, стары, не прыкідвайся. Трактарок звёў з калгаснага двара, як цялушку? —Звёў! Пару цялежак трактарных таксама? Ды і маторчыкаў усялякіх... хоць майстэрню адкрывай. Так што нечага, стары, — паляпаў ён бацьку па плячы.

— А кабылку? — тыцнуў Мікіта відэльцам у кіўбасу. — Яна, сынок, цяпера... ого! І сама па сабе, і што ні год — прыплод. А гэта жывая капейчына. Я ўжо не кажу пра зерне. Каму-каму, а мне старшыня заўжды. І за капейкі. Хоць тону, хоць дзве.

— О, о, о, — паблажліва ўсьміхнуўся сын, за што і вып'ем.

— Я, сынок, заёрзаў дзед ад пахвалы, — правільна зрабіў, калі выкруціў сякеру з рук бацькі.

— Ты? Выкруціў?! Колькі табе тады было? 10 ці 12 год?

Ты правы, перагнуў крыху. Ну, ухапіўся за сякеру і верашчу: татка, не трэба... А то б пасек. А нас бы ў Сібір ці да сцяны. Уяўляеш, абрабавалі, як усё роўна ліпку абдзёрлі. І хто? Тулягі, абібокі вясковыя. Вось табе і раскулачванне. Але не ў гэтым справа. Я ўжо тады скумэкаў, куды трэба хінуцца. Да гэтай банды. Бо так і цар не рабаваў. Іх улада, іх моц. Думаў, усё жыццё думаў: мне б толькі ў іх партыю... я не бацька, кулачыць буду я, а не мяне. — Во, малаток, ляпнуў па спіне бацьку Дзмітрый Мікітавіч, — не дарма лебяду еў. Вясковы мужык, а разумнейшы за гэтага дурня Шапіру. Я — мастак, я, я, я, волі мне! волі! Мае карціны ідуць за рубеж. Ідуць? І ты за імі. А нам і тут добра, правільна, бацька?

Усё тое, што калісьці ў нас забралі, я вярнуў ды яшчэ з гакам, — захіхікаў стары.

— А гак — на дзесяць кулакоў ранейшых. Так і трымайся.

— І — ні кроку назад, сціснуў кулак Мікіта.

Ведаеш, што прыпаднесла наша ўлада гэтаму заслужанаму Шапіру? Пару усечаных конусаў і некалькі паперак з прыгожымі літаркамі.

— Што за конусы?

— Хе-хе, бацька, не разумееш, не, пару крыштальных цацак, велічынёй з піўны куфаль, го-го-го. Вось табе і знакамітасць, і гонар Рэспублікі Беларусь. Гэта яму за шасцідзесяцігоддзе, а мне за пяцідзесяцігоддзе, як не заслужанаму, вось, павёў ён рукой вакол сябе, — тэлік колерны — раз, дыван самы каштоўны, нават не ведаю, куды яго прыстасаваць, відэамагнітафон, банкет у рэстаране. І гэтак далей, далей, далей, — зноў соладка зарагатаў ён.

— Ого, зайздрасна паглядзеў бацька на сынавы здабыткі, вось табе і партыя — капут.

Капут?! Хе, яна яшчэ не толькі нас, праўнукаў нашых пераажыве. Бо чыё карыта? Наша! А гэта галоўнае, стары... Дарэчы, ведаеш, як празвалі вечар Шапіры? "Не гаўкай!" Го-го-го!

— Ке, ке ке-ке-ке, падтрымаў бацька і гаворка пацякла далей, як рэчка ў мора.


## ВЫХАДНЫЯ ДАНЫЯ

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара 22-9-89, намесніка гал. рэд. 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 6 жніўня 1999 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж 1968 экз. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 5.

**Галоўны рэдактар**
**В.А. ДАЎГАЛЁЎ.**